НАРОДНАЯ БІБЛІЯТЭЧКА
№ 5



ЛЯВОН РАДЗІМІЧ

# АДАМ І ЕВА

—

# ЧАБОР

АПАВЯДАНЬНІ




БЭРЛІН 1944

# АДАМ І ЕВА

На ускраі вёскі, ля сажалак, за якімі пачынаецца возера, на невялікім пяшчаным грудку стаіць Рамашова хата. Некалі, у далёкай мінуўшчыне, яна служыла у Мікулячах за лазьню; год дваццаць таму, калі у вёсцы наняўся за пастуха Рамаш, яна перайшла у часовае ягонае карыстаньне, а пасьля і на ягоную собскасьць.

Старая, зацьвілая, друзлая Рамашова хата мела толькі адно ваконца, якое, быццам ведзьміна вока, углядалася у сажалкі, возера і паплавы. Яна была падобна да свайго гаспадара: ён таксама быў стары, сівы, згорблены і кульгавы. Дзе ён нарадзіўся і гадаваўся, як жыў і бытаваў, ці меў свой прыстанак і сям'ю, адкуль прыйшоў і чаму асяліўся у Мікулічах — ніхто ня ведаў і даведацца ад Рамаша ня мог: ён быў маўклівы, укрыты і недаверлівы да людзей.

За пастуха у Мікулічах Рамаш пабыў толькі адно лета. Калі увесну мужчыны хацелі наняць яго на другое лета, ён катэгарычна адмовіўся.

— Хіба плата малая? — спыталі яны у Рамаша.
— Не, — адмоўна заківаў галавою Рамаш.
— Можа кармілі дрэнна?
— Не.
— Мабыць, пакрыўдзілі чым?
— Не.

— То якой-жа табе трасцы не стае? — злосна запыталіся мужчыны.

— От чаго не стае мне, — гнеўна адказаў Рамаш, глянуўшы у вочы мужчынам: — жывяцё вы не па праўдзе!... Як гады, ненавідзіце адзін аднаго, жыўцом паелі-б сусед суседа, у пролабку утапілі-б брата роднага...

Абражаныя мужчыны накінуліся на Рамаша:

— Бач ты, праўдалюб знайшоўся.

— Прыцёгся у чужую вёску, улез у чужую лазьню і гадамі яшчэ называе...

— Узяць-бы яго за каршэнь ды самога у пролабку: хай ня курыць столі у лазьні!...

Бальшыня, адчуўшы бяз дай прычыны згрызоты у душы, адыйшлася ад Рамашовае лазьні. Мяншыня, заўсёды войстрая на язычок, пачала чапляцца да яго, каб выклікаць на сварку. Але Рамаш не паддаваўся ні па якія закіды: панурыўшы галаву, ён сядзеў на парозе свае хаты і маўчаў. Пакрычэўшы, заядлыя, таксама разыйшліся па хатах, ізноў паўтарыўшы пагрозу аб высяленьні.

Але ужыцьцёвіць сваю пагрозу ім усё-ж не дазволіла сумленьне: хаця Рамаш і не згадзіўся за пастуха у Мікулічах, ён усёроўна застаўся жыць у мікуліцкай лазьні.

Ад тае вясны Рамашова лазьня набыла назоў Лясуновай, а жыхар ейны — страшную мянушку Лясуна. Навет возера, якое называлася некалі за дзядоў Сінім, сталася па некаторым часе Лясуновым; і бор, што пачынаўся адразу за возерам, таксама згубіў сваё даўнае імя Ходзькаўскага (ад прозьвішча пана, валадара маёнтку Ходзькавічы) і стаўся Лясуновым.

Так памсьціліся вяскоўцы Рамашу за ягоную нялюдзкасьць і абвінавачаньне іх у непраўдзівым жыцьці. Ня толькі няпрыязьнь, а самая лютая ненавісьць да яго завалодала усімі мікуліцкімі жыхарамі. Мужчыны і жанкі, праходзячы каля лазьні, лаялі бяз дай прычыны Рамаша, быццам ён зрабіў ім штосьці благое; маткі, узлаваўшыся на дзяцей, палохалі іх мікуліцкім Лясуном:

— От занясу у лазьню, завяжа Лясун у мех ды у возера!...

За сваё суровае абвінавачаньне Рамаш раптам апынуўся вонках вёскі. Усё, што толькі ёсьць благое у людзей, пачалі валіць на яго: і зайздрасьць, і скнэрасьць, і прагавітасьць, крывадушша, ману і ашуканства. Узлаваныя людзі, ведаючы, што Рамаш голы, прагна чакалі таго дня, калі ён, згаладаўшыся, прыдзе да іх у хату і папросіць лусту хлеба. Як-бы яны узрадаваліся, калі-б пабачылі Рамаша хворым, галодным, паміраючым ад смагі і ня маючым сілы, каб падняцца і напіцца вады! Якія-б прыгожыя маралі чыталі яны, каб ён апынуўся перад імі з працягненай рукой!

Але уся бяда у тым, што Рамаш і ня думаў карыцца вяскоўцам. Адлучаны ад іх, як хворы на нейкую страшэнную хваробу, ён зажыў сваім асобным жыцьцём, не падобным да жыцьця ніводнага мікуліцкага гаспадара. Усе вяскоўцы лятуцелі аб зямлі, аб шырокіх палосках і пrасторных хутарох, паблізу ад якіх разьмешчаныя балотцы, а у іх плаваюць качкі і квакаюць жабы; за гэтую зямлю яны біліся і сварыліся, клялі адзін аднаго да дванаццатага калена і судзіліся дзесяткамі год; лепшыя дружбакі-прыяцелі, калі ішло аб зямлю, рабіліся лютымі ворагамі, якіх магла пагадзіць адна сьмерць. Рамашу гэтыя лятуценьні былі чужымі: па сваім веку ён бачыў гэтулькі зямлі, што, каб пачаць абыходзіць яе, пэўна

ня стала-б жыцьця. Маленькі гародчык, што ляжаў насупраць падсьлепаватага вакенца ягонае хаціны, здавальняў ягоныя патрэбы на цэлы год: шматок бульбы, градка цыбулі, морквы, капусты і рэпы. Але ён пачуваў сябе валадаром ня толькі маленькага гародчыка пад вакном свае хаты: увесь навакольны сьвет — рака, што выцякала з возера, само возера, бор, сенажаці, палі і пералескі — усё уваходзіла у ягоную душу, як успаміны маленства, усё было Рамашовай собскасьцяй, непарыўнай зь ягонай істотай. Вяскоўцам гэтага дзіўнога пачуцьця ніяк нельга было зразумець: яны па вушы пагрузьлі у сваіх нявольніцкіх лятуценьнях, уважалі іх самымі праўдзівымі, навет сьвятымі, а усё, што выходзіла за межы іх, фальшывым і недарэчным. Рамаш-жа сваім парадкам іхныя лятуценьні уважаў за няпраўдзівыя, а сваё пачуцьцё — волі, незалежнасьці ад нікога, поўнае самастойнасьці — ставіў вышэй за усё на сьвеце. Сьведама паставіўшы сябе вонках вёскі, ён зажыў адмысловым жыцьцём паляўнічага і рыбака, які штодня пачувае сваё зьліцьцё з прыродай.

Золкам, калі усё навакольнае было шчэ поўна прадранішнага сну, Рамаш прачынаўся у сваёй хаціне. Ня сьнедаўшы, ён сядаў у човен і выяжджаў на сярэдзіну возера. Белы туман даўгімі касьнікамі чапляўся за узьбярэжныя кусты. Патрывожаная качка узьлятала угару, аддаляючыся ад чаўна. Рамаш разматваў сець і апушчаў яе у ваду. Лёгкія паплаўкі пярэстаю дарожкаю слаліся люстранаю гладзінёю возера. Адплыўшы ад іх, Рамаш пачынаў біць вяслом па вадзе, заганяючы у сець рыбу. Плоткі, акуні, галаўні, падусты, перапалоханыя плескам, траплялі з разгону у сеці. Узяўшыся за край сеці, Рамаш пачынаў выймаць яе, выбіраючы срабрыстую рыбу. Ён клаў яе проста на дно чаўна, дзе яна трапятала і білася, ледзь ня выскокваючы у ваду. Выбраўшы

злоўленую рыбу, Рамаш ізноў апушчаў у падводнае царства сваю снасьць, спадзяючыся на новы удалы лоў. За якую-небудзь гадзіну ён налоўляваў сабе рыбы на цэлы тыдзень. Калі надыходзіла пара паляваньня, Рамаш праз цэлыя дні бадзяўся балатамі, лясамі і палямі.

Раньняю вясною ён начаваў у бары, падсьцерагаючы глушцоў. Ціха ступаючы па трэсках і леташнім лісьці, ён падцікаваўся да дрэва, на якім тукавала птушка. З шэрага мора вырысоўваўся цёмны глушэц, які лопаў крыльлем і заўзята сьпяваў. Ня спушчаючы вачэй зь яго, Рамаш прытойваўся на месцы. Адным махам ён ускідваў дубальтоўку і прыцэльваўся. Глуха грымеў стрэл. Да ног валіўся глушэц. Рамаш падыймаў птушку і углядаўся у багатае ейнае убраньне. Чырвоны грабень і чырвоныя глушцовыя вочы прымушалі мацней біцца гарачае паляўнічае сэрца.

Улетку Рамаш паляваў на рэчках і вазерцах качак.

У глыбокую восень, калі падала першая пароша, ён хадзіў на зайцоў і цецярукоў. Кульгаючы, выходжваў за дзень вёрстаў па дваццаць — трыццаць.

Узімку, лютымі маразамі, Рамаш пачуваў сябе у лесе, як дома. Аднойчы у завею трапілася яму заначаваць у бары, ня маючы пры сабе агня. Доўга ня думаючы, ён разгроб у сьнезе глыбокую яму і залёг у яе, як мядзьведзь. Наверсе, над сьнегам, гуляла завея, а унізе, пад сьнегам, было цёпла, як у лазьні. Але усё-ж Рамаш баяўся заснуць: мароз прыгалубіць, заварожыць, а потым возьме у свае лапы і прыцісьне. Не заплюшчваючы вачэй, Рамаш ляжаў у бяздум'і. Раптам ён пачуў, як нейчыя кіпцюры борзда заскрэбалі сьнег. Рамаш ціхенька падагнуў ногі, узьняў напагатове стрэльбу, насьцярожыўся. Кіпцюры яшчэ шпарчэй запрацавалі. Калі яны паказаліся у бярлозе, Рамаш націснуў адразу два куркі. Гулкі выбух

грымнуў пад сьнегам, а разам зь ім пачулася зьвярынае гурчаньне і стогн. Рамаш выскачыў із бярлогі. Проста перад ім корчыўся воўк, ляскаючы зубамі і стогнучы. Рамаш адбегся пад сасну. Шпарка заклаўшы у стрэльбу новыя патроны, ён ізноў стрэліў у зьвера. Здалёк у лесе замільгалі агеньчыкі. На Рамаша наступала цэлая воўчая зграя. Ён пачаў адыходзіць. Павернецца, каб ісьці, а ваўкі заляскаюць зубамі, завыюць і кінуцца на яго. Рамаш наважыў перахітраваць іх. Узяўшы стрэльбу напагатове, ён пайшоў задам наперад. Падскочаць ваўкі да яго — ён стрэліць у іх, яны загырчаць і накінуцца на параненага. Рамаш бяжыць з усяе сілы па лесе. Ізноў наскочаць—Рамаш ізноў стрэліць. Так і вялі аж да самае хаты.

Доўга пасьля тае пары не хадзіў Рамаш у бор, баючыся трапіць у воўчыя кіпцюры. Мікуліцкія плеткары навет пачалі дзейкаць, ці не занядужаў ён, а можа і зусім памёр, — каторы ужо дзень не паказваецца ні на возеры, ні на полі. Цікаўная Пёкла, хадзячая мікуліцкая пошта, вясёлая удава гадоў пад пяцьдзесят, адважылася зайсьціся да Рамаша. Яна ужо даўно, не зважаючы на людзкія пагалоскі, заглядалася у ягоны бок, — стары, а дзябёлы, ня п'яніца і ня гультай, — спадзяючыся заблытаць яго у свае цянёты. Крамяная, у поўным соку маладзіца, яна ледзь працiснулася у вузкія дзьверы Рамашовае лазьні-хаціны і, войкачы, грудным голасам праказала:

— Дзень добры, суседачка!... Ой, ня ведаю, як па бацьку...

— Добры дзень, — адгукнуўся з кута Рамаш.

— А дзякуй-жа табе, Божачка, што бачу суседа жывым і здаровым!... А на вёсцы ужо кажуць няма ведама што...

— Што-ж кажуць на вёсцы? — абыякава запытаўся Рамаш.

— Ой, цяпер людзі, як зьвяры парабіліся, самі-б сябе жыўцом паелі! Кажуць, што Рамаш пайшоў па ваду на возера, праваліўся у вапалонку і дужа застудзіўся... Памірае, кажуць... Ці праўдачка гэта?

— Памёр ужо, — усьміхнуўся Рамаш.

— Жартаўнік-жа ты, суседачка, — аж затрэслася ад рогату Пёкла: — памёр і сьмяецца!... А я ужо думаю, дай думаю, зайдуся да суседа. Ён, можа, хворы ляжыць, есьці і піць благае, а яму ніхто не згатуе і не падасьць. Ці ёсьцека-ж у цябе гатаваць із чаго, суседачка?

— Ёсьцека, — буркнуў Рамаш.

— А я ужо і курчанё прынесла... Ліха яго ведае, што зь ім сталася — ня есьць, ня п'е. Дык я ужо яго...

— Ня трэба, — засупярэчыў Рамаш.

— А мой-жа ты суседачка, братачка, ня крыўдзі, зрабі ласку! Я-ж ад шчырага сэрца...

— Ну, то дзякую.

— От і добра, — расплылася у усьмешцы Пёкла. — А я ужо думала, — ня возьмеш. Пра цябе-ж няма ведама, што кажуць... І Лясуном, і ваўкалакам дражняць. А я ня веру у гэта. Я з кажным чалавекам зжыцца магу. Жыла я за Пархвенам... Ня дай Божа, да чаго злы быў, а ладзілі, не ганяліся адзін за адным із таўкачамі... Жыла за Аўтухом... Грозны быў мужык, слова не скажы, кулачча сьцісьне, зубамі заскрыгочыць, — а таксама не сварыліся, ня біліся. Жыла за Петраком...

— Дык за колькімі-ж ты жыла? — ня вытрываў Рамаш, уставіўшы вочы у Пёклу.

— А за трыма, суседачка, за трыма! Першы мужык, Пархвен, сам памёр, царства яму нябеснае... Другі му-

жык, Аўтух, із вайны не зьвярнуўся, зямля яму пухам... А трэйцяга мужыка, Петрака, дрэвам прыціснула у лесе, лёгенька яму ікнецца на тым сьвеце. Трэйці мужык сама лепшы быў: каб ён калі слова наўсуперак сказаў, а ня то што руку падняў. Такі ласкавы, лагодны; з пасынкамі, як із роднымі дзецьмі абыходзіўся. А вялікія ужо, дзякуй Богу, яны у мяне, сыны і дочкі. Дзьвюх большых замуж аддала, сына ажаніла, другога у салдаты забралі... Адна засталася у хаце, як сірата тая... Выпалю у печы, пасьнедаю, падлогу падмяту, а далей і ня ведаю, што рабіць. Туга мяне возьме, нудота...

— Яшчэ замуж хочацца? — насьмешліва запытаў Рамаш.

— Ай, кінь, суседачка! — зноў аж затрэслася ад рогату Пёкла. — Каму я патрэбная, старая ды гарбатая? Мо' такому дзеду, як ты, кульгаваму? Га, суседачка?

— А пайшла-б за мяне?

— А пасватайся! Га, суседачка?

— Што-ж у пасаг будзе?

— Чапяла, рагач, ступа, таўкач, міска шчарбатая, кошка мурзатая...

— Багаты пасаг, няма чаго сказаць! Толькі адна загана...

— Якая-ж суседачка?

— Маладая — дрэнь!... Жаніх — Лесавік, а маладая — баба Юга: трох мужыкоў у магілу увагнала і чацьвертага туды сама хоча упіхнуць. Не, адкасьніся, ведзьма!

— Дарма, суседачка... Можа мы век пражылі, пакуль адзін аднаго знайшлі: я трох мужыкоў у магілу увагнала, а ты мо' сем жонак на той сьвет паслаў... Што іх чапаць, нябожчыкаў: мёртвым — мёртвае, а жывыя пра жывое думаюць...

— Выбачай, Пёкла, ня пара я табе, — сурова праказаў Рамаш, пакінуўшы жартаваць: — і кульгавы, і нядужы, і праўду люблю. Скажу табе, суседка, у вочы, ня тоячыся: не па праўдзе жывеш, у брудзе пагрузла, у грахох скоцкіх... Ня толькі дзяцей, але унукаў маеш, а думаеш, як дзеўка, аб поскудзі усялякай... Ідзі ад мяне, адкасьніся, покуль у гнеў не увяла!... Згінь, пропадам прападзі!...

Рамаш раптам падскочыў з услону і кінуўся да Пёклы. Пералякаўшыся, тая кумільгам выкацілася за дзьверы і у мамэнт апынулася на вуліцы. Там яна прыпынілася і засакатала:

— Пабіў... Далібог, пабіў... Людцы добрыя, ратуйце... Ой, Лясун гэты, ваўкалак!... Аддай маё курчанё!...

Рамаш, пачуўшы ейнае галашэньне, схапіў курчанё і выбег із хаты. Размахнуўшыся, ён кінуў Пёклін падарунак ёй пад самыя ногі. Пёкла яшчэ галасьней залемантавала:

— Ратуйце, людцы!... Ой!... Пабіў, на горкі яблык зьбіў... Лясун гэты, ваўкалак... Печанцы адбіў... Сярэдзіна пераламаная...

На Пёклін лямант зьбегліся людзі. Плачучы, яна пачала расказваць, як у яе укралі курчанё; як яна здагадалася, што гэта зрабіў Лясун; як зайшлася да яго у хату; як ён пабіў яе...

Людзі абурыліся. Гарачыя дзяцюкі пачалі ламаць кольле, каб пакараць Рамаша. Перапалоханая Пёкла пачала упрошваць іх, каб ня білі яго. Але ужо было запозна: разьюшаны натоўп кінуўся да лазьні.

Рамаш, не чакаючы, пакуль дзяцюкі уварвуцца у ягоную хаціну, выйшаў насустрач. Сівы, згорблены, кульгавы, ён стаў перад імі і сказаў:

— Ну, от, беце. Беце, хлопцы! Я злодзей, лясун, ваўкалак. Беце мяне. Што-ж вы стаіцё? Ну, ты, высокі, падыйдзі і дай калом па галаве. Або ты, рыжы, у заечай шапцы. Або ты, з рабаценьнем на твары, у салдацкім шлеме. Беце, хлопцы, з усяе сілы беце: я злодзей, лясун, ваўкалак...

Дзяцюкі, не зварухнуўшыся, маўчалі. За праслам на вуліцы зноў залемантавала Пёкла. Да лазьні бегла усё болей мужчынаў.

— Эх, не чалавекі вы, а машкара: чуеце, што брынчыць, бачыце, што блішчыць, а жывяцё навобмацак, як смаўжы тыя! Ня праўдаю жывяцё, людзі, а фальшам, маною.

Рамаш крутка павярнуўся і пайшоў у сваю хату. Бальшыня дзяцюкоў, засаромеўшыся свае гарачкі, пайшла назад на вуліцу, а меншыня, заўсёды прычэплівая, пачала аскірзацца і лаяцца. Рамаш ня выходзіў із хаты і не адказваў на лаянку, хоць і чуў яе праз тонкія сьцены. Патаптаўшыся пад дзьвярыма, і меншыня пайшла на вуліцу, дзе усё яшчэ сакатала Пёкла. Узгневаныя дзяцюкі накінуліся на яе з лаянкай і спагналі такі злосьць на мікуліцкай пляткарцы.

Рамаш пасьля таго дня яшчэ мацней замкнуўся у сабе. Ніякія падзеі у Мікулічах — ні хаўтуры, ні вясельле, ні сходы, якія усё часьцей і часьцей пачалі зьбірацца у школе, — ня выклікалі у яго цікавасьці. Зашыўшыся, як прусак у шчыліну, у сваю лазьню, ён жыў у ёй, не падпарадкаваны нікому і незалежны ад нікога.

Але вонкавы сьвет усё болей і болей дакучаў яму. Прыежджыя гарадзкія агітатары у скураных куртках і вайсковых фрэнчах колькі разоў заходзіліся у ягоны катух і сурова прапаноўвалі ісьці у калгас. Рукамі і нагамі адбіваўся ад іх Рамаш, бароначы сваю волю.

Увесну, калі усё-ж зарганізаваўся у Мікулічах калгас, Рамашу забаранілі лавіць рыбу у возеры. А потым яго аштрафавалі, як бязьбілетнага паляўнічага, і адабралі стрэльбу. Рамаш пачаў рабіць сіты і бёрды, але і гэта камусьці не спадабалася: яму прынесьлі чырвоны квіток на падатак — «за аднаасобную саматужную вытворчасьць». Падатак быў вялікі, нешта каля семсот рублёў, — выплаціць яго Рамаш ня мог-бы і за колькі год.

Аглушаны нечаканымі бедамі, Рамаш апусьціў рукі. Рыбацтва забаронена, стрэльбу адабралі, на выраб сітаў і бёрдаў накладзены страшэнны падатак, — што рабіць, із чаго жыць? Рамаш пастанавіў нічога не рабіць... Калі прыйшлі апісваць ягоную маемасьць, ён паказаў на ката: — «Гэта мой конь!» — і на прусакоў у шчылінах: — «Гэта мой статак!» Упаўнаважаны вылаяўся і выйшаў із хаты.

Ад тае вясны пацягнуліся шэрыя, як неба у глыбокую восень, дні. Як Рамаш жыў, чым жывіўся, ніхто ня ведаў і ня цікавіўся даведацца. Часта бачылі яго на лузе: ён нагінаўся і выкопваў карэньне з зямлі. У жніво ён зьбіраў калосьсе на полі, як зьвязуць зь яго збожжа. Увосень назапашваў на зіму ягадаў, грыбоў, гарэхаў і жалудоў. Як вавёрка у дупле, сядзеў ён у сваёй хаціне, якая усё болей і болей уяжджала у зямлю.

Ён згубіў лік часу. Кажнаю парою году можна было бачыць яго у вадным і тым-жа самым убраньні: у шапцы-вушанцы, у залатанай, у тры рады няведамага колеру сьвітцы, у лазовых лапцях. Анучы у яго заўсёды былі чыстыя, белыя, што дзівіла і сьмяшыла мікуліцкіх бабаў.

Так дажыў Рамаш да нядаўнага лета, якое ушчэнт зьначыла дасюляшняе жыцьцё. Праз Мікулічы, якія за усю сваю гісторыю бадай што ня бачылі узброенага салдата, пайшлі палкі і дывізіі на захад, адкуль яны неўзабаве рынуліся адступаць, забыўшыся на парадак і

дысцыпліну. Стары мікалаеўскі салдат, удзельнік японскае вайны, Рамаш із жалем глядзеў на змучаныя твары тых, якія вымушаны былі пайсьці паміраць за чужое шчасьце.

Дагэтуль спакойнае, чыстае і бястурботнае мікуліцкае неба ускрылася сталёвымі птушкамі, ад гулу якіх дрыжэла зямля і замірала усё жывое. Здалёк даносіліся выбухі бомбаў і грукат гарматаў. Здавалася, надыйшлі канцы сьвету: спусьціцца зь неба арханел Гаўрыіл, затрубіць у трубу, і устануць із магілаў мерцьвякі, каб разам із жывымі ісьці на апошні суд.

Прыціхла гэнымі днямі вёска. Моладзь ад сямнаццаць год і мужчыны да пяцьдзесят былі забраныя у армію, дома засталіся толькі старыя і малыя.

Стаялі, паклаўшы крыж-на-крыж рукі, вяскоўцы на вуліцы, із страхам пазіраючы у неба і уздрыгваючы ад гулкіх выбухаў.

Бітва падыходзіла усё бліжэй і бліжэй да Мікулічаў. Палалі навакольныя мястэчкі і вёскі, высокім полымем асьвятляючы барвовае неба і глухія навакольныя лясы. Перапалоханыя людзі пахаваліся у скляпы і ямы, штораз пры выбуху хрысьцячыся і шэпчучы малітвы. Адзін Рамаш паранейшаму сядзеў на узгорку ля свае хаты і, не зважаючы на гул недалёкае бітвы, плёў лапці.

Глыбака задумаўшыся, Рамаш не пачуў, як да яго падыйшоў хлапчук гадоў сямёх, у ваднэй сарочцы, босы, бяз шапкі, змучаны і галодны. Спыніўшыся перад Рамашом, ён утароплена устанавіўся у яго, як-бы раздумваючы — варта зьвярнуцца да яго ці не? Белявыя хлапчуковы вейкі міргалі, правая рука была выстаўленая наперад, левая бездапаможна абвісла далоў.

— Дзеду, га дзеду! — ціха зьвярнуўся ён да старога.

Рамаш ад нечаканасьці здрыгануўся і падняў вочы.

— Хлебка дай... — папрасіў хлапчук, трымаючы выстаўленую уперад руку.

Рамаш моўчкі устаў із пня, пайшоў у хату і вынес хлапчуку лусту хлеба.

— Адкуль ты? — запытаўся ён у яго.

— Зь Берастава, — адказаў той.

— Па кусочках ходзіш?

— Не-е-е, — працяжна праказаў хлапчук.

— А як-жа?

— Мамку маю забіла... — ціха сказаў хлапчук і закалаціўся ад нясутрыманага плачу.

Рамаш узяў хлапчука на рукі і пасадзіў на калены. Цёплымі, ласкавымі словамі суцяшаў ён дзіця, пакуль яно крыху супакоілася і расказала, як загінула ягоная маці.

— Як-жа зваць цябе? — спытаўся ён у хлапчука.

— Адам, — адказаў той і падняў на яго сінія, як пралескі увесну, вочы.

— Дай-жа пацалую цябе, Адам! — глуха праказаў Рамаш, моцна прыхінаючы да сябе хлапчука і цалуючы яго у гарачыя заплаканыя вочы.

Хлапчук застаўся начаваць у старога. З бацькаўскаю шчыраю любасьцяй прыгалубіў яго Рамаш, абмыў, даў яму сваю чыстую сарочку, пакарміў і напаіў, паслаў мяккую пасьцелю зь сена і накрыў сьвіткаю. Змучаны горам і цяжкою дарогаю, хлапчук адразу заснуў моцным сном, а Рамаш прысеў на пасьцель і доўга углядаўся у чысты дзіцячы твар, поўны наіўнасьці і даверлівасьці, незаплямлены ніякімі благімі думкамі і учынкамі. Даўно зайшло сонца. У хаце з адзіным акенцам зрабілася цёмна, а Рамаш усё ня клаўся спаць, ахоўваючы сон свайго

прымака. Страляніна, што чулася у навакольных лясох, больш не займала Рамаша, — хлапчукова апавяданьне аб сьмерці маці і ягоных блуканьнях дарогамі вайны запаланіла усю Рамашову істоту.

Назаўтра, пасьнедаўшы, хлапчук надзеў падараваную Рамашом шапку, узяў у рукі даўгі кій і сабраўся выходзіць із хаты.

— Навошта табе кій? — запытаў Рамаш.

— А сабакаў адганяць!

— Дзе-ж яны, сабакі тыя?

— А у вёсках! Як згледзяць новага чалавека, дык і кідаюцца. Бяз кія дужа дрэнна хадзіць.

— Куды-ж ты пойдзеш, чалавеча?

— А да бабуні! Ганна бабуня у мяне. Далё-ё-ё-ка адсюль... Трэба ісьці, ісьці, ісьці і цягнікам яшчэ ехаць... А потым зноў ісьці... А можа падвязе хто...

— У якім-жа баку бабуля твая?

Хлапчук заміргаў вейкамі. Пытаньне аб кірунку зьбянтэжыла яго. Яму здавалася, што варта яму ісьці ды ісьці наперад, каб трапіць на высокі бераг ракі, дзе стаяла у садку бабуліна хата.

— Там... — раптам паказаў ён на усход, адкуль ліло сваё цёплае праменьне ліпенскае сонца. Падумаўшы, ён паправіўся: — Не, там... — гэтым разам паказаўшы рукою на захад.

— От бачыш, — усьміхнуўся Рамаш, — ідзеш ты да бабулі, а у якім баку жывець яна — і ня ведаеш. Паслухай мяне, хлопча! Нікуды цяпер ня ідзі, жыві тут, са мною — будзем лавіць рыбу і варыць юшку. А бабулі мы напішам ліст: так і так, прыбіўся да дзеда Рамаша твой унук, прыяжджай і забірай яго.

— А вас дзедам Рамашом завуць? — зацікавіўся хлапчук.

— Але, так, некалі Рамашом зваўся, а цяпер больш Лясуном. Чуў, можа, пра цара баравога Лясуна? Гэта я і ёсьцяка. Так і напішам бабулі: «Жыву у баравога цара Лясуна, лаўлю рыбу, гатую юшку...»

— Не-е-е, — заківаў галавою хлапчук, усьміхаючыся.

— Што не? — перапытаў Рамаш. — Ня хочаш заставацца у мяне?

— Вы не бараві цар Лясун... У таго барада да самога пупа, вочы зялёныя, рогі на галаве... Мне бабуля расказвала, калі быў у яе летась.

— Не — дык не, згадзіўся Рамаш. — Ня хочаш зваць Лясуном, заві дзедам Рамашом.

— А у які-ж бок мы пашлём ліст? — раптам запытаў хлапчук, узрадаваны, што злавіў дзеда на тым самым, на чым кагадзе сам спаткнуўся.

— А гэта ужо ня нашай галаве балець, у які бок пасланць ліст. Напішам на канвэрце: «Адамавай бабулі Ганьне...»

— Як завуць вёску, дзе жыве твая бабуля?

Хлапчук наморшчыў лоб, заміргаў вейкамі, а потым вінавата адказаў:

— Забыўся...

— Не бяда, — не зьбянтэжыўся Рамаш, — пошта знойдзе... Гэтак і напішам: «Адамавай бабулі Ганьне»... Хто-ж ня ведае Адамаву бабулю? Артымаець яна ліста, прачытае і прыедзе па цябе. А пакуль прыедзе, ты пажывеш у мяне. Добра, хлопча?

— Добра! — радасна заківаў галавою хлапчук, вомірг уявіўшы, як да дзедавай хаты пад'едзе бабуля, як ён ускочыць на воз і моцна-моцна абымець яе за шыю.

Хлапчук з радасьцяй застаўся жыць у старога дзеда-лесавіка. Разам зь ім ён езьдзіў на возера лавіць рыбу, хадзіў у лес па ягады, палоў грады і абкопваў бульбу на гародзе. Ніводнае часіны ён не маўчаў: гаварыў пра горад, пра сваіх таварышоў, пра вайну.

Калі Рамаш слухаў дзіцячае шчабятаньне, цёплае пачуцьцё напаўняла ягонае старое сэрца, сьвятлейшым і ласкавейшым рабіўся дзень, ажыўлялася і цьвіла навакольная прырода.

Штораніцы, прачынаючыся, хлапчук зварачваўся да Рамаша з адным і тым самым пытаньнем:

— Бабуня прыехала?

— Заўтра, мабыць, прыедзе, — лагодна адказваў стары, адводзячы ад хлапчука твар.

— А можа ты не паслаў ёй ліста?

— Як-жа не паслаў? Таго самага дня аддаў на пошту. Пакуль ён дойдзе, пакуль яна выберацца, пакуль даедзе... Дарога-ж далёкая, цяжкая...

— А-а-а, — расчаравана адказаў хлапчук, устаючы з пасьцелі.

Пра маці ён ані разу не запытаў. Ці то яму было балюча яе успамінаць, ці то страшна, ці можа таму, што яна была у мінулым, а ён увесь у будучыні — разам із бабуляю, з маленькім ейным садком, зь ціхою рэчкаю, у якой так хораша плёскацца і пырскацца ля пяшчанага берага?

Аднойчы, прыбегшы з вуліцы, дзе ён гуляў зь вясковымі хлапчукамі (дзед наказваў не хадзіць да іх, але ён не паслухаў), Адам прыхінуўся да Рамаша і празь сьлёзы праказаў:

— Там хлопцы дражняцца...

— А я-ж табе казаў — не хадзі, — пачаў супакойваць яго Рамаш, гладзячы па галаве.

— І не пайду больш . Яны злыя. Вуліцаю ішла нейкая дзяўчынка з торбачкаю, дык яны сабакамі яе цкавалі...

— Яны ня лепшыя за сваіх бацькоў, сынок. Яблык ад яблыны недалёка падае, і сава ня родзіць сакала. Эх, Адаме, Адаме! Шмат год міне, пакуль людзі стануцца людзьмі і жыць зь імі можна будзе. Зьдзічэлі, азьвярэлі, горш за сабакі парабіліся. Трэба вялікую кару наслаць на іх, каб перабрала, перачысьціла кажнага. Цесна на зямлі зрабілася, локаць аб локаць чапляецца, ілбамі стукаюцца...

— ... А дзяўчынка плакала, — жаліўся Адам. — Плача, а хлопцы сабакамі цкуюць. Вунь яна да нас ідзе! — гукнуў ён, паказваючы на сьцежку, якой ішла да іх дзяўчынка.

Яна аказалася такой самай бесхаціміцай, як і Адам. Рамаш адразу пасадзіў яе за стол і накарміў. Потым дзяўчынка расказала пра сябе.

Ціха выслухалі сумную дзяўчынчыну гісторыю стары Рамаш із сваім прымаком. Калі яна скончыла, Рамаш узяў яе за худзенькую руку і запытаў:

— Хочаш жыць із намі?

Дзяўчынка моўчкі заківала галавой.

— Ну, от, сынок, і сястрычка табе: ты Адам, а яна Ева.

— Не, мяне завуць Марынкай, — папраўіла уцякачка.

— Гэта даўней ты была Марынка, а цяпер Ева, — стаяў на сваім Рамаш. — Спачатку Бог стварыў Адама, а потым Еву. Адам і Ева былі першыя людзі на зямлі. Жылі яны у раі, ніякага гора ня ведалі, ніякае бядоты і турботы, пакуль не зграшылі. А калі зграшылі, Бог іх із раю выгнаў і сказаў: «Жывеце, пладзецеся, здабы-

ваючы хлеб сабе у поце твару свайго». От і мардуюцца людзі ад таго часу, ніяк не узаб'юцца на праўдзівую дарогу. Шмат тысячаў пакаленьняў прайшло, а грахоў усё более і более на зямлі. От Бог і шле кару па кары на людзей — войны, хваробы... Можа стацца, што толькі два чалавекі застануцца на зямлі — хлопчык і дзяўчынка. Яны і пачнуць новае жыцьцё. Калі выпадзе гэтае шчасьце на вашую долю дай Божа вам жыць у ласцы і згодзе.

Стары Рамаш нагнуўся і пацалаваў іх. Зьдзіўленыя дзеці ня ведалі, што адказаць на дзедавыя словы. Як-бы чагосьці засаромеўшыся, яны стаялі апусьціўшы галовы, і маўчалі. Першай апамяталася дзяўчынка. Падняўшы вочы, яна запытала:

— А дзе-ж будзеце вы, калі мы застанёмся адны на зямлі?

— Э-э-э, мая песенька скончаная, дзеўча! — горка усьміхнуўся Рамаш. — Калі вы застаняцёся адны на зямлі, я даўно буду у магіле. Дзякуй Богу, пацягаўся па сьвеце. Жыў на Каўказе, у Пецярбурзе, у Маскве, у Сібіры, на Далёкім Усходзе, у Манчжурыі. Дзе мяне толькі ня бачылі сонца і месяц. У Манчжурыі раніла мяне, от кульгаю ад таго часу. У Сібіры думаў затрымацца надоўга, навет перасяліўся туды з жонкай і дзецьмі. Чацьвёра дзяцей у мяне было... Маразы там, бураны... Пошасьць ходзіць. Сям'я мая вымярла... От я і прыцёгся на гэтае возера. Дваццаць год пражыў на ім, чакаючы на вас, дзеці мае. А цяпер і паміраць можна... Толькі не, няпраўда: жыць хочацца. Колькі ні жыве чалавек, а усё мала! А мне, дык, папраўдзе, і ня было калі жыць: шэсьцьдзесят год кідаўся зь месца на месца, шукаючы шчасьця, а тады, зьняверыўшыся знайсьці яго, неяк прыбіўся да гэтага возера. Э-э-э, каб гады мае маладыя, каб сіла мая... Горы перавярнуўбы! Адылі,

бачу, вы ня слухаеце мяне? — раптам запытаў ён сваіх прымакоў, якія аб чымсьці перашэптываліся.

— Мы на возера пойдзем, — сказаў Адам, бяручыся за клямку.

— У чаўне плёскацца? Не! — сурова праказаў Рамаш, адводзячы ад дзьвярэй хлапчука.

— Мы ня будзем плёскацца... Я хачу рыбу лавіць вудачкай.

— Э-э-э, хітруеш, хлопча! Сядзеце у човен і пачняцё гойдацца. А човен абернецца...

— Не, мы будзем рыбу лавіць!

— ...Лавіць будзем... — нясьмела дадала дзяўчынка.

— І ты ужо рыбаком зрабілася?... Дальбог, не Марынка, а Ева: адразу ужо слухаецца баламута... Ляж, адпачні, пасьпі!

Дзяўчынка паслухмяна адыйшлася ад хлапчука. Адам, ня слухаючы дзеда, адчыніў дзьверы і выбег на двор. Рамаш пачухаў патыліцу і праказаў:

— То ідзі ужо, ідзі... Толькі да чаўна — ні блізка!

— Не! — звонка адказала дзяўчынка, шпарка выбягаючы с хаты.

Рамаш адчыніў дзьверы і прысеў на парозе. Ціхі летні дзень стаяў на зямлі. Не шалясьцелі лісьцем дрэвы, не калыхаліся сланэшнікі, люстраное возера ляжала спакойным, нярухомым. Далёкія някошаныя лугі разьлягаліся перад вачыма, сіні бор вабіў да сябе прахалодаю і урачыстасьцяй. Неба, празрыстае і глыбокае, углядалася у зямлю, убіраючы у сябе ейныя зялёныя краявіды. Ня верылася, што дзесьці ідзе вайна, грымяць гарматы, выбухаюць бомбы і гінуць людзі. Але Рамаш ведаў, што гэта так. Так будзе да таго часу, пакуль

зьнішчыцца усё благое, і на зямлі запануе мір і супакой. Ня хутка гэта будзе, не дачакацца Рамашу, але усё-ж будзе. .. Яны, будучыя жыхары зямлі Адам і Ева, здабудуць сабе шчасьце у жыцьці.

— Благаславі-ж, Госпадзі, у далёкую дарогу! — ціха сказаў Рамаш, гледзячы, як хлапчук і дзяўчынка, заміж таго, как рыбу лавіць, пялешчуцца і пырскаюцца у чаўне.

---

# ЧАБОР

Чалавека можна абнізіць нагэтулькі, што ён звыкнецца із сваім станам, згорбіцца, скамянее, шточасіны гатовы будзе прыпяць найцяжэйшыя удары лёсу. Але чалавека нельга зрабіць машынаю, аўтаматам: у глыбіні ягонае душы заўсёды будзе тлець пачуцьцё супраціву, якое можа бяз дай прычыны разгарэцца зыркім полымем. Не загасіць тады яго ніякім катам думкі чалавечае: шуганець яно пад самыя хмары, пакажа дарогу да шчасьця і праўды.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

1940 год. Восень. Дрымучая паўночная тайга. На расьцярэбленай прагаліне разьмешчаныя баракі. У іх начуюць зьняволеныя, сасланыя сюды з усіх канцоў краю. Удзєнь — ад сьвітаньня да познага вечару — яны працуюць у лесе, не разгінаючы сьпіны.

Глухое імглістае сьвітаньне. Із баракаў выходзяць, як сьцені, людзі. Імжыць дождж, прабіраючы іх да касьцей. Азызла, холадна. Па топкай дарозе трэба брысьці у тайгу, пілаваць аж да адзервяненьня рук тоўстыя дрэвы, каб пазьней, па саннай дарозе, сьцягнуць бярвеньне на сабе да ракі, а увесну сплавіць іх кудысьці уніз, туды, дзе будуецца «соцгорад». Там некалі будуць жыць здаровыя, загарэлыя дзяцюкі, пульхныя і крамяныя дзяўчаты, а тут, на месцы «загатоўкі» будаўлянага матар'ялу для «соцгораду», будуць ляжаць косьці дрывасекаў...

Нізкае, над самымі верхавінамі дрэў, неба. Дождж Людзі уздрыгваюць, паціскаюцца. Постаці іхныя згорбленыя, твары завойстраныя, зямлістыя. Шмат хто кульгае. На нагах у іх — лапці або анучы, завязаныя аборамі. Калі яны ступаюць, абапал дарогі ляцяць пыркі гразі, ад якіх грэбліва староняцца вартавыя.

Нудна, павосенску, стогне тайга. Колькі год угрызаюцца у яе катаржнікі, а яна усё шуміць і шуміць, не зважаючы на іхныя турботы. Ад іхнае пякельнае працы і знаку ня відаць на ёй: глухая, дрымучая, бясконцая, яна чакае у свае нетры шмат будучых пакаленьняў. Усім яна дасьць дом і дамавіну, усіх прыгалубіць і супакоіць. Дываны ёйных імхоў служаць за пасьцель, багна і дрыгва балотаў — за калыску. Як крывясмок які, хапае яна людзей ува усіх куткох краю, цягне, быццам магніт той, у свае неабдымныя прасторы, каб выцягнуць зь іх жылы і поджылкі. А дзеля чаго, навошта? Яна і сама ня ведае. Так было спакон вякоў, так будзе...

Мерна, як нейкая вялізманая машына, крочыць шэразямлісты натоўп. Наперадзе, крайні зьлева, ідзе Карцэвіч. Некалі ён быў за настаўніка на вёсцы, вучыў дзяцей, любіць свой край; цяпер, быццам аўтамат той, месіць сібірскую гразь, церпіць холад і голад, ня бачачы ніякага прабліску у будучыні. Калі-б запытацца у яго, за што ён пакутуе, ён усьміхнуўся-б і пацінуў плячыма. Там, за тысячы кілёмэтраў, ляжыць ягоны край, поўны красы і прывабы. Палкім, няўміручым каханьнем любіць ён той край. Але каханьне, як полымя, пякучае. Яно і абпаліла яго. Тысячы ягоных пабрацімаў засталіся там, у далёкім краі. Шмат каго зь іх чакае такі-ж самы лёс. Мінуць яго толькі тыя, хто мае халодную кроў, духовую спустошанасьць або жывёльную прагнасьць да жыцьця.

Вось і дзялянка №27 лясное дачы №11. Натоўп прыпыніўся. Кароткая праверка, а потым зычны голас:

— На работу — равы-ы-ыдзісь!

Падзяліўшыся — у лес. З кажнай брыгадай ідуць два вартавыя.

Карцэвіч, прыпыніўшыся ля хвоі, зірнуў угару. Стромкая, роўная, прыгожая, яна упіралася у самае неба. Хутка яна з шумам і гулам паваліцца на зямлю. «От так і жыцьцё наша»... — раптам паўстала параўнаньне. Размахнуўшыся, ён ударыў сякерай па камлі. Яшчэ раз, яшчэ... Стаміўшыся, ён перадаў сякеру свайму напарніку дзядзьку Архіпу. Прысадзісты, круглаваты, ён некалі быў асілкам. «На усё сяло ішоў на кулачкі», — хваліўся Архіп. Цяпер ён саслабеў, зьнясілеў. Цынга мучыла яго. Учора, прыйшоўшы з работы, ён паваліўся, не распранаючыся, на нары і заснуў. А сяньня, устаўшы, зьдзіўлена праказаў да Карцэвіча:

— Міхал, га Міхал... Што-ж гэта?

Карцэвіч глянуў у ягоны бок. Архіп стаяў ля дзьвярэй і разглядаў нешта на сваіх загрубелых далонях. Вочы ягоныя міргалі, пальцы дрыжэлі. Падыйшоўшы бліжэй, Карцэвіч пабачыў у Архіпавых руках зуб.

— О, у дзядзькі Архіпа яшчэ уся маладосьць наперадзе! — засьмяяўся Карцэвіч: — малочныя зубы выпадаюць...

— Быў конь, ды зьезьдзіўся, — глуха праказаў Архіп. — Каб маім ворагам такая маладосьць!... Сьмерць выбівае касою зубы — от што гэта! Не жыхар я на гэтым сьвеце. Памру, братка... Быў дуб, ды адубеў, — горка дадаў ён, уздыхнуўшы. — Ат! — раптам выгукнуў Архіп, моцна вылаяўшыся, і кінуў з усяе сілы вобземлю зуб.

Моўчкі, на нікога не пазіраючы, глыбока затаіўшы у сэрцы крыўду, ішоў Архіп разам з усімі у лес. Моўчкі узяў ад Карцэвіча сякеру і зь нейкаю лютаю злосьцяй

накінуўся на хвою. Быццам, яна, гэтая сібірская хвоя, была вінаватая у ягонай долі. Гулка разносіліся удары ад сякеры, борздка разьляталіся ува усе бакі трэскі. Аж ямкі выбіў нагамі дзядзька Архіп — так натужваўся у рабоце. Падсекшы, колькі трэ было, пачалі пілаваць. І тут злосьць не пакінула — так шпарка цягаў ягоны напарнік пілу. Каб лепей было пілаваць, Архіп усеўся на зямлю і, узяўшыся за ручку пілы аберуч, шпарка цягаў яе узад-уперад. Хвоя калыхнулася, хруснула.

— Вымай! — крыкнуў Карцэвіч.

Але Архіп ня даў вымаць пілы і з новаю сілаю правеў ёю па дрэву колькі разоў. Хвоя трэснула, як-бы абарвалася што у яе у сярэдзіне, і пачала падаць. Дрывасекі, выхапіўшы пілу, адскочылі. Хваёвыя сукі чапляліся за іншыя дрэвы, трашчэлі, ламаліся, — з гулам і грукатам пракладала хвоя апошнюю дарогу сабе. Раптам яна уперлася у другое дрэва. Грукат сьціхнуў. Толькі патрэсквалі і лопаліся, як туга нацягнутыя вяроўкі, сукі і галіны.

— А ну, другую!... — выгукнуў Архіп, падбегшы да другое хвоі, на якой засела першая.

— Заб'е, — перасьцярог Карцэвіч.

— Толькі і бяды! — махнуў рукою Архіп, зноў моцна вылаяўшыся.

Карцэвічу зрабілася абыякава. Абыякава тайга, гэтыя хвоі, вартавыя, пілы, сякеры, гэты нізкі, каржакаваты чалавек, які спаганяе сваю непагаслую злосьць на дрэвах. Хацелася плюнуць на усё і пайсьці углыб тайгі. «Уцяку — спакой, куля дагоніць — спакой». Увесь навакольны сьвет, навет сваё жыцьцё — абыякавыя, чужыя. «Пілаваць дык пілаваць», — мільганула у галаве у Карцэвіча, калі узяўся за ручкі пілы, каб сьпілаваць другую хвою, на якой засела першая.

Бяздум'е і абыякавасьць ува усёй істоце. Чувацъ, як роўна ходзіць узад-уперад піла, панура шуміць дрымучая тайга, абыякавая да людзей і іхных пачуцьцяў. Зь ненажэрнаю лютасьцяй угрызаецца у дрэва піла, з незагаслаю злосьцяй сочыць яе Архіп. «От так-бы узяў і перапілаваў увесь сьвет напал»... Перад ягонымі вачыма устае вёска, сям'я. «Дзе мае родныя, дзе мае дзіцяпяткі? Мо' і яны заходзяцца ад холаду і голаду, як і я у тайзе? Эх, рэж піла, угрызайся у хвою! Дзед рабіў на паноў, бацька на вайне загінуў, сам тры гады у палоне прабыў... За што? Каб занесьці косьці на поўнач дзікім зьвяром. Вораг!... Бульбы не завёз да тэрміну на бровар, каб яна згніла там у капцох, а потым гарэлкі нагналі зь яе, каб напаіць яго, Архіпа Мацьвейчыка, саракаградуснай... А ладна-б цяпер выпіць чарку, каб боль суцішыць у зубах... Шчыміць у дзяснах, ірве... І цыбуліны днём із агнём ня знойдзеш тутака. Цыбуля, кажуць, памагае добра!»

Яшчэ не дапілавалі да палавіны, як хвоя трэснула і загула. Карцэвіч, не разгінаючыся, кінуўся у бок. Архіп, падскочыўшы, таксама пабег. Крышачы усё на сваім шляху, абедзьве вялізныя хвоі гулка грохнуліся на зямлю. І у гэты мамэнт нехта праразьліва крыкнуў... У Карцэвіча мароз прайшоў па сьпіне. Ён скочыў да хвояў. На зямлі, распасьцёршы рукі, ляжаў Архіп. Із роту ішла кроў. Карцэвіч схапіў яго, за плечы, прыўзьняў. Архіп яшчэ дыхаў. Цяжка, як замораны конь, ён удыхаў у сябе паветра, і кроў булькала у ягоным горле. Карцэвіч трымаў ягоную галаву на сваіх каленах і выціраў кроў хусьцінкай. Архіп пачаў дыхаць часьцей. Раптам цела ягонае напружылася, ён расплюшчыў вочы, дзіка павёў імі навакол і нешта загаварыў. Карцэвіч не разабраў ягоных слоў. Потым Архіпава цела абвяла, галава зрабілася цяжэйшай. Архіпа нястала.

Усё гэта адбылося у вадну хвіліну. Карцэвіч не пасьпеў апамятацца. Ашаламанелы, ён сядзеў у нейкай нязручнай позе ля Архіпавага цела і трымаў ягоную галаву на сваіх каленах. У галаве у яго стаяў туман. Рабіў ён усё мэханічна, як у няпрытомнасьці. На зямлі ляжаў няжывы чалавек, ля яго сядзеў застыглы чалавек. Із гэтае застыгласьці вывёў яго прарэзьлівы сьвіст, а потым вокліч вартавога:

— Устаць!

Карцэвіч мэханічна устаў.

— Рукі угару!

Карцэвіч мэханічна падняў рукі угару.

— Напра-а-а, арш! — скамандаваў вартавы.

Карцэвіч падумаў крыху і пайшоў, як здавалася яму, направа.

— Напра-ва-а, арш! — зычна выгукнуў вартавы.

Карцэвіч, жадаючы направіцца, пайшоў у другі бок.

— Напра-а-а, арш! — нема выкрыкнуў вартавы.

Карцэвіч спыніўся. Ён спыніўся якраз каля пня той хвоі, якую яны з Архіпам кагадзе сьпілавалі. Тут-жа ляжалі сякеры і дзьве пілы. «Чаму дзьве пілы? — падумалася Карцэвічу. — У нас-жа адна была... адна піла», — паўтарыў сабе Карцэвіч, ніяк не дадумаўшыся, што піла магла паламацца, калі падала хвоя. «Дзьве пілы... адна піла»... — таўклося у ягонай галаве, а увушшу зьвінела і гуло нешта чужое, далёкае. На сэрцы было холадна, абыякава.

Разгневаны вартавы падбег да Карцэвіча і ударыў прыкладам па галаве. Вартавы, паводля закону, павінен быў весьці ссыльнага, затрыманага на месцы злачынства, да начальніка, а ссыльны пачаў упірацца. Ён, зноў-жа паводля закону, меў права навет страляць у ссыльнага.

Вартавы гэтага не зрабіў. Ён ужыў прымусовую сілу. Ссыльны упаў. Вартавы з чыстым суменьнем выкапаў свой сьвяшчэнны абавязак. Пакінуўшы ля ссыльнага свайго заступніка, ён пайшоў да начальніка.

Туман у Міхасёвай галаве расьсеяўся. Навакол зрабілася ясна і прыгожа. Тонкія камлі соснаў залітыя сонцам. Яны, як мядзяныя. Барвовыя водблескі граюць на іх, дзіўна зьмяняючы лес. Сосны — як калёны. Карцэвіч стаіць на узгорку, зарослым верасам, і глядзіць на захад. Неба усё у вагні. Палаюць хмары, быццам падпаленыя чыёйсьці рукой. Гэта тыя самыя болакі на краю зямлі, за якія бабы хаваюць пранікі. Дайсьці-б да іх — і можна трапіць на неба. А на небе, высока над грэшнаю зямлёю, іншыя законы і звычаі:

Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі,
Там няма ні нуды, ні клапот.
Ты — царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара — дыван-самалёт!

Карцэвіч прачынаецца. Ён із зьдзіўленьнем бачыць сябе на зямлі. Трэба устаць, нешта зрабіць, нешта сказаць. Ах нестае змогі. Так хораша ляжаць на зямлі. Трава перад вачыма... І пах... Што гэта за пах? У памяці паўстае зыркі летні дзень, стромы бераг Дняпра, шырокі прастор лугоў, дубы на лугох... Дубы, як асілкі, уздымаюцца адзінотна на лугох, а паміж іх цячэ Дняпро — шырокі, сіні, чысты Дняпро-Славуціч. Побач зь імі яна, ягоная будучая жонка. Тады ён ня ведаў, што пабярэцца зь ёю; знаёмству іхнаму было месяцы дватры; ён прыехаў у ціхі паветавы гарадок, каб пабачыцца зь ёю. Ён сустрэў яе на вуліцы. Як яна зьдзівілася і спалохалася! Гэтая часіна застанецца у яго на усё жыцьцё. Ейны позірк, даўгія вейкі, шчасьлівая усьмешка

на вуснах, і радасьць, і спалох. Ад гэтае часіны іхнае знаёмства сталася нечым большым. Яны хадзілі па ваколіцах гарадка, па лясох і палёх, доўга гутарылі, часьцей маўчалі. От яны сядзяць на стромым беразе Дняпра. Блакітная далячынь прад імі. Сіняя рака плыве на паўдня. Ласкавае сонца апаўдні. Іхная блізіня перамешаная пахамі чагось водарнага, хмельнага. Што гэта пахне так востра, аж круціцца галава? Ад аднаго успаміну заходзіцца сэрца. Высокі бераг, кусты на ім, пах... пах чабору!... Так, гэта чабор кружыць галаву; гэта ён уліў у сэрца радасьць і дужасьць; гэта ён, пахуча-душмяны чабор, аднавіў, як жывую радзіму — зялёную, баравую, жытнюю Беларусь.

Як зачараваны, Карцэвіч углядаецца у дарагія сэрцу краявіды, поўныя нявыказнае тугі і хараства. Раўчук бяжыць па каменчыках, а над ім зьвесілі шаты маліны, каліны, ажыньнік. Бор шуміць спрадвечную песьню, і сэрца замірае ад ягонага шуму. Сяляне, пабліскваючы косамі, ідуць на касавіцу. Жнеі, вяртаючыся з поля, пяюць тужлівую песьню. Хлопцы едуць на начлег... Сьпякота; авечкі зьбіліся пад ёлкі; Міхась прыпаў да крынічкі і п'е сьцюдзёную ваду...

Карцэвіч углядаецца у родныя абразы і адчувае, як цела ягонае поўніцца сілай, дужасьцяй, імклівою прагнасьцяй да жыцьця і змаганьня. Якія-б ні былі пакуты, яны яму ня страшныя: ён, як старавечны гэрой Антэй, моцна стаіць на зямлі, і нікому не адарваць яго ад яе. Вусны Карцэвіча міжвольна шэпчуць:

О, Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цьвет!...
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнабыльлём не зарасьцеш!...

Усёю істотаю, усёю сваёю духоваю існасьцю ён звараchаецца, як да маці, да свае Бацькаўшчыны, да ейных людзей, сваіх кроўных суродзічаў:

«З Табою, Беларусь, будуісьці побач, прыйму Тваё гора і пакуты; з Табою, Беларусь, выйду на лепшую дарогу жыцьця! Вышэй галаву, браты! Цьвярдзей крок, любыя!»

Туман расьсеяўся, усё зрабілася ясна і проста. Карцэвіч расплюшчыў вочы. Насупраць сядзеў, паклаўшы нага на нагу, вартавы. Каля дрэва стаяла стрэльба. Вартавы быў абыякавы. Ён, здавалася, дрымаў. Карцэвіч насьцярожыўся. Рукі яго задрыжалі. Як спружыновы, ён падскочыў, хапіў стрэльбу і кінуўся у тайгу. Вартавы стрэліў із нагану. Карцэвіч схіліўся за дрэва, ляснуў замком, прыцэліўся і спусьціў курок. Вартавы прысеў на зямлю. Здалёк данесьліся сьвісткі, крыкі, стрэлы. Ня услухоўваючыся, Карцэвіч бег па тайзе, моцна трымаючы у руках стрэльбу. Крыкі аддаляліся, слабелі. Тайга прыймала у свае суровыя абдымкі уцекача, які перастаў быць абыякавым.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За свой кароткі век я бачыў шмат крыўды і пакуты людзкой. Я бачыў, як здаровыя мужчыны за месяц рабіліся падобнымі да сьценяў: рукі і ногі у іх апухалі, твары сінелі, і яны паміралі з голаду. Я бачыў, як застрэлілі маладога зьнясіленага дзяцюка за тое, што ён хістаўся, калі нёс насілы із цэглаю. Я бачыў, як маці закрывала сабою дзіця, бароначы яго ад куляў.

Міжволі паўставала думка:

Людзі часьцей за усё із пакораю ставяцца да сілы. Яна выклікае у іх жах і паралiжуе дзейнасьць.

Але разам із тым я бачу тысячы іншых факта іншых учынкаў людзкіх. Гэтыя факты і учынкі абуджаюць другую думку — дзейную, крылатую.

Чалавека можна абнізіць нагэтулькі, што ён звыкнецца із сваім станам, згорбіцца, скамянее, шточасіны будзе гатовы прыняць найцяжэйшыя удары лёсу. Але чалавека нельга зрабіць машынаю, аўтаматам: у глыбіні ягонае душы заўсёды будзе тлець пачуцьцё супраціву, яко можа бяз дай прычыны разгарэцца зыркім полыме Не загасіць тады яго ніякім катам думкі чалавеча шуганець яно пад самыя хмары, асьвеціць абліт крывёю зямлю, пакажа дарогу да шчасьця і праўды.

---